## ЗЬМЕСТ №3.



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.
„ год . . . . . 3. 50.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын Сакавік. 1932 г. № 3

## 2-ая нядзеля Посту.

*(Паводле сьв. Марка. Разьдзел 2, 1—12. Зачала 7).*

*1. Таго часу ўвайшоў Ісус у Капэрнаум посьле некалькіх дзён: і разышлася вестка, што Ён ёсьць у доме.*

*2 І вось сабралася гэтулькі народу, што не маглі зьмясьціцца, нават ля дзьвярэй: і гаварыў ім навуку.*

*3. І прышлі да Яго, нясучы спаралізаванага, каторага нясьлі ў чатырох.*

*4. А калі не маглі прыблізіцца да Яго дзеля натоўпу, адкрылі сталяваньне, дзе Ён быў, а праз атворыну спусьцілі ложак, на каторым ляжаў паралітык.*

*5. А Ісус, бачучы іхнюю веру, сказаў паралітыку: Сыне, адпускаюцца табе грахі твае.*

*6. Былі там некаторыя з кніжнікаў, што сядзелі і думалі ў сваіх сэрцах:*

*7. Чаму Ён так гаворыць? Ён богахуліць, хто-ж можа даравацъ грахі, як не адзін Бог?*

*8. А тады Ісус пазнаўшы сваім духам, што яны так у сабе думалі, кажа ім: На што вы гэтак думаеце ў сваіх сэрцах?*

*9. Што лягчэй? Ці сказаць паралітыку: Адпускаюцца табе грахі — Ці сказаць: Устань і вазьмі свой ложак і хадзі?*

*10. Але каб вы ведалі, што Сын Чалавечы мае на зямлі ўладу даравацъ грахі — сказаў паралітыку:*

*11. Табе кажу: устань, і вазьмі ложак свой і ідзі ў свой дом!*

*12. І ён зараз устаў і, узяўшы свой ложак, пайшоў перад усімі, так, што ўсе дзівіліся і славілі Бога, кажучы: Ш то ніколі мы нічога падобнага ня бачылі*

---

Ісус Хрыстос, Бог міласьці і міласердзя ашчасьлівіў беднага паралітыка, аздараўліваючы яго.

Паралітык быў няшчасным чалавекам, быў, можна сказаць, жывым трупам: праўда жыў, але ня меў ніякай улады над сваім целам, ня мог нават парушыцца, — быў цяжарам для сябе і для другіх: ня толькі працаваць на сваё ўтрыманьне, але нават і есьці сам бяз помачы другіх ня мог. Запраўды, вельмі няшчасны чалавек спараліжаваны. Ісус Хрыстос зжаліўся над бедным няшчасным чалавекам і выздаравіў яго.

У значэньні духоўным паралітыкам можна назваць кожнага чалавека, каторы ёсьць апанаваны грэхам. Такога чалавека таксама як і паралітыка можам назваць жывым мрацом. Толькі тая розьніца, што паралітык, аб якім гавора вышэйпрыведзенае Евангельле, ня меў улады над целам, а чалавек, каторым валадарыць грэх, ня мае ўлады над душой. Воля ягоная робіцца так слабой, што нічога ня можа зрабіць як дыхтуе розум і сумленьне.

Возьмем напрыклад чалавека, каторым валадараць пажаданьні цялесныя. Ці такі чалавек ня ведае, што ён дрэнна робіць, ці не гавора яму розум і сумленьне, каб перастаў грашыць? Праўда, могуць быць і такія распусьнікі, што ў сваей распусьце згубілі і розум і сумленьне, такім сумленьне ўжо перастала гаварыць, але такіх людзей бяз сумленьня на сьвеце ня шмат.

Звычайна чалавек хаця і грэшыць, усё-ж-такі ведае, што дрэнна робіць, але ня мае сілы паправіцца, устрымацца. Яго воля так слабая, што зусім ня мае ўлады над целам. Воля такога чалавека зусім спараліжавана, няшчасны чалавек, ня можа рабіць таго, што хацеў-бы, становіцца цяжарам для сябе і для другіх.

Дзеля заганы цялеснай чалавек усё губіць: калі мае якую маемасьць, аддасьць яе на распусту, за гэта атрымлівае ад людзей пагарду і ненавісьць, а ў дадатку, як гэта часта бывае, і брыдкую хваробу.

Добра прадставіў нам прыклад такога чалавека Ісус Хрыстос у асобе блуднага сына. Такіх блудных сыноў і ў нашых часох вельмі многа, няшчасныя гэта людзі. Ведаюць добра, што ня так трэба жыць, распуста ня дасьць шчасьця, аднак ня маюць сілы волі і жывуць так з дня на дзень, з году ў год. Параліж духоўны ня толькі ў тым горшы ад цялеснага, што заслужывае ў людзей пагарду, але яшчэ

і тым, што ня толькі робіць чалавека няшчасным у гэтым жыцьці, але і ў будучым, у вечным.

Ці-ж няма ратунку для паралітыка духоўнага? Не, ёсьць. Як Добры Хрыстос зжаліўся над няшчасным паралітыкам у Капэрнауме, таксама можа зжаліцца над паралітыкам духоўным, можа зрабіць цуд, чалавек можа зусім пераяніцца. Сам такі чалавек ня можа дайсьці да Хрыста, патрабуе помачы другіх.

Запраўды, трэба дзівіцца над вялікаю дабратою тых чатырох людзей, што прынясьлі да Хрыста паралітыка. Любоў прамысьльная, не зьнеахвочваецца перашкодамі. Маглі гэтыя людзі згадзіцца з няшчасьцем, калі ўбачылі, што немагчыма дайсьці да Збаўцы звычайным спосабам, маглі вярнуцца дамоў. Аднак гэтыя добрыя людзі так не зрабілі: „адкрылі сталяваньне... а праз атворыны спусьцілі ложак". І вось, як Евангельле кажа: „А Ісус, бачучы іхнюю веру" зрабіў цуд; зрабіў больш як яны прасілі, бо ня толькі аздаравіў цела паралітыка але і душу.

Чатырох людзей, аб якіх гавора нам сяньняшняе Евангельле, даюць нам усім добры прыклад да насьледаваньня. Як праз іх веру Ісус Хрыстос аздаравіў няшчаснага паралітыка, таксама і праз нашу веру аздаравіць гатоў Добры Хрыстос паралітыка духоўнага, калі мы ягоную душу з вялікаю вераю паложым да ног Хрыста і будзем прасіць для яго зьмілаваньня.

Асабліва павінны маліцца за паралітыкаў духоўных ягоныя блізкія, прыяцелі і знаёмыя. Няхай праўдзівая любоў блізьняга падкажа ім, што маюць рабіць, каб памагчы беднаму чалавеку.

Паказаць пагарду, штырхнуць нагой ляжачага кожны патрапіць, нават і асёл гэтак можа зрабіць, а падняць ляжачага, памагчы блізьняму будзе магчы толькі той, хто мае праўдзівую любоў да блізьняга ў сэрцы.

*а. Антоні.*

---

# Унія ў вачох праваслаўнага.

Давялось мне няраз у справе Уніі царкоўнай вясьці гутарку з праваслаўнымі сьвецкімі і духоўнымі. Сказаць мушу, што агульнае ўражаньне, якое робіць Унія на кожнага з іх, гэта нейкі таёмны страх, быццам перад чымсь сапраўды жудасным, перад чымсь, што можа адняць ад чалавека штось найбольш яму мілае ў жыцьці і дарагое. Вычуваецца, што Унія гэта нешта варожае, ад чаго далёка ўцякаць трэба, гэта спакуса, ад каторай адварачываць трэба розум і волю сваю.

З боку псыхолёгічнага гэта зусім зразумелая рэч. Усе яны ўважаюць сваё праваслаўе за ўласную жыцьцёвую пазыцыю, тую пазыцыю, на каторай узгадавалісь, каторую баранілі ў адносінах да іншага адваротнага кірунку. І раптам цяпер яе здаваць? Надта востры ўдар і псыхолёгічна, кажам, зусім зразумелы жах ім выкліканы. Кожнаму цяжка выракацца свайго. Гэта мы ясна бачым у гісторыі розных рэлігійных пераходаў і зьменаў. Тую ненавісьць да Уніі выяўляюць кожны па свойму залежна ад таго ці іншага асабістага настрою. Разгледзім-жа тут паасобку некаторыя перашкоды, з якімі спатыкаецца Унія па дарозе да цёплага хрысьціянскага сэрца праваслаўнага чалавека.

а) Было гэта ў в. Парослах, Беласт. пав. Мая добрая сваячка, кабеціна наскрось праваслаўная, неяк закранула ў сваёй гутарцы Езуітаў і вось мне якую навіну адкрыла: — „Ведаеце, кажа, няма нічога горшага на сьвеце, як Езуіты, гэта штось страшное.“ — А дзе вы, пытаюсь, спатыкаліся з імі? — „Я іх сама то ня бачыла, але дай Божа ніколі і не спатыкацца з імі!“ —

Гэта характэрыстыка настрояў цёмнае вёскі. Цёмны вясковы чалавек гэтак-жа сьлепа адбіваецца і ад Уніі. Калі, помню, стаў я ёй расказываць, што сам знаю многіх Езуітаў асабіста і што нават гадаваўся ў іх некулькі гадоў, тады яна раптоўна зьдзівілася сама перад сабой, як-бы пачула, што ўпала ў нейкую матню. — „Я то ня ведаю... але чаму-ж усе так аб іх гавораць...“ —

Пачаўшы гаварыць аб Уніі я заўважыў, як нейкая нэрвовая лёгкая дрыготка прабегла па яе твары. Але калі стаў ёй даказываць, што праз Унію пляцоўка яе праваслаўная ня толькі ня згіне, але наадварот, яшчэ больш узмацоўваецца, тады яна ўжо спакайней уздыхаючы: „а Бог яго ведае, кажа, можа гэта і добра было-б, але... я баюся аб гэтым думаць.“

Ня знача, што яна гатова ўжо перайсьці на Унію, яна цэлай душой сваей яшчэ трымаецца ў глыбокай рэзэрве, але прынамсі годзіцца з самай ідэяй Уніі, даецца аб ёй гаварыць, што так-жа ўважаць трэба за даволі паважны крок па лініі збліжэньня і еднасьці веры хрысьціянскай.

Цёмная, але шчырая душа вяскоўца чакае сьветла-яркай лучынкі.

б) Прышлось аб Уніі гаварыць з простадушнымі манахамі праваслаўнымі. Паваенныя абставіны іх выкінулі з замкнутых кляштараў на арэну жыцьця парахвіяльнага. Нявысокай яны навукі, але ўжо ня гэтак сьлепа адкідаюць Унію, як вясковец, яны бароняцца ад яе ўжываючы сьведамых аргумэнтаў.

Адзін з іх (у Горадні) сьв. п. Мітрафан, душа простая, шчырая, калі аружжа, якім бараніў сваю пазыцыю, аказалася слабым, закончыў гутарку: „куды-ж я, стары, пайду? Я

ўжо так зжыўся з сваім способам жыць і гараваць; што кідацца на новыя хвалі жыцьця ўжо мне цяпер ніяк, няхай прад Богам адказываюць тыя, што разьдзел у царкве калісь зрабілі".

Другі (у Тапільцы каля Беластоку) пасьля доўгіх спраў заявіў гэтак сваю стойкасьць праваслаўную: „а няхай сабе ўсе йдуць на Унію, ці яна будзе польская, ці і рымская нават, я адзін астануся верным праваслаўю; вазьму кіёк у рукі і пайду па людзях прасіць куска хлеба, а веры сваей ня здраджу". — Яго ўжо не старасьць і не спакойны куток трымаюць далёкім ад Уніі, але тыя скамянелыя, сказаў-бы думкі, якія ў ім паставілі граніцу ўсякаму развою. Годзі тут рахаваць на нейкую новую, жывую ідэю. Трэба якогась катаклізму, каб узварушыў тыя думкі застыгшыя. Рэлігійны фанатызм вельмі вострых патрабуе сродкаў на сваю ліквідацыю.

в) Праваслаўны сьвяшчэньнік падчас калядаваньня (у маёй вёсцы) замеціў між абразамі адзін абраз з нейкай адзнакай уніяцкай. — „Калі ён ужо вам надта так падабаецца, то няхай лепш быў-бы лацінскі, чым уніяцкі". — Лацінскі няхай сабе будзе, а уніяцкага цярпець ня можна! Тут бачым новую праяву варожасьці да Уніі, хоць гэта па часьці так-жа зразумелая рэч. Унія бліжэй падыходзіць да жыцьця праваслаўнага, чым да лацінства і з натуры сваей зьяўляецца яму больш небясьпечная. Праўда і лацінства шмат горне да сябе людзей з сьвету праваслаўнага, але гэта дзеецца найчасьцей сілай абставін жыцьцёвых, не дзеля спэцыяльна праграмовай акцыі з боку лацінства.

Пакрывае сваю няпрыхільнасьць да Уніі наш сьвяшчэньнік вядомымі аргумэнтамі проці Папы Рымскага, але адразу чуць, што гэта больш для формы, чым дзеля глыбокага пераканаваньня. Урэшце і сам прызнаецца: „Што тут магу я сказаць, няхай думаюць аб тым старэйшыя і разумнейшыя; я чалавек невялічкі." — Словам, не адказ а адчэпка.

Сьмею падумаць, што найбольш важную ролю тут іграе звычайны опортунізм жыцьцёвы г. зн. каб было добра, ды яшчэ лепш. Гэтакіх людзей пацягне той, хто больш суліць і больш дасьць. Унія тут не як справа рэлігійная, царкоўная сама па сабе, а ўважаецца, як „доходная статья" ў буджэце шэрага будняга дня. Сягоньня яна (Унія) такой атракцыі яшчэ ня мае і таму адносіны да яе вось гэтак і прадстаўляюцца. На той опортунізм складаецца, ведама, ня толькі забясьпечаны кусок чорнага хлеба (было-б гэта надта ўжо прозаічна і нізка), тут уходзіць шмат іншых узглядаў практычнага характару, як пэўная радавая традыцыя, сужыцьцё бліжэйшага грамадзянства, сувязь сямейная і другія.

г) Праваслаўнае духавенства з „лепшым тонам" трак-

туе Унію ўжо крыху інакш. Яно падыходзіць да Уніі, ці мо' лепш дапускае думку аб ёй з нейкай, сказаў-бы далікатнай дыплёмацыяй, астаючыся, разумеецца, заўсёды ў глыбокай рэзэрве свайго жыцьця праваслаўнага.

Стаўляю адкрыта пытаньне: ці інтэлігенцыя праваслаўная, як нпр. розныя Жэлезьняковічы і Галубёвыя (Дыскусыя ў „Słowie“) сапраўды шчыра да Уніі падыходзяць (хоць-бы нават і па свояму)? Скажу сьмела, што не! Усе іхнія гутаркі гэта адно для фасону, гэта дэлікатны культурны манэўр, але толькі для адчэпкі. Урэшце яны да таго выразна і самі прызнаюцца.

Дзе-ж, пытаю, прычына таму? Прычыны шукаць трэба ў глыбейшых асновах іхняга ўзгадаваньня і традыцыі жыцьцёвай. Будзе тут вінаваты стары бізантынізм, вінавата яго новая форма, што завецца „рускім праваслаўем“, вінавата ў нашых тутэйшых варунках тое іхняе перакананьне, што „по происхождении я бѣлоруссъ, а по убѣжденію — русскій“, але — перарываем, вернемся калісь да гэтага другім разам.

*а. Я. Рэшэць.*



* * *

*Чаму гэтак цяжка чалавеку жыць?*
*Чаму яго сэрца так часта дрыжыць?*
*Чаму яно плача, ад тугі ўздыхае?*
*Чаму бяз упынку чагосьці шукае?...*

*Здаецца на сьвеце шмат ўсяго цяпер*
*Чалавеку служыць гром, вада і зьвер,—*
*Як у казцы бачыць цудоўныя зьявы,*
*Паветра іграе да танца, забавы...*

*А глянь ў яго сэрца у тую хвіліну,*
*Калі ён пагглядзіць на сваю пуціну...*
*Колькі там пужаньня ад цемры, нямочы.*
*Які клік тугі як да сонца ў ночы!..*

*Кінь-жа ты дзіцятка бяз маткі у полі,*
*Дай яму і цацак і яды даволі —*
*Крыху пагуляе а пасьля начне*
*Клікаць сваю родну з плачам да сябе.*

*А як прыйдзе ночка, вецер запяе,*
*І туман расою зямлю абліе —*
*Дзіцятка, як кветка зьмёрзлае ляжыць...*
*Ня жыць яму бяз хаты, бяз маткі ня жыць!*

*А вось перад Богам старац, малады*
*Заўсёды — дзяціна, ня значаць гады,*
*Заўсёды яму трэба Божае апекі,*
*Бяз яе ён гаруе і гібне на векі!*

*Адбяжыць ад Бога ў чужую старонку,*
*Пабяжыць за шчасьцем на зямлі ўдагонку —*
*Зморыцца нябожа, шчасьця не найдзе,*
*Пакуль не пакліча Бога да сябе.*

*с. Тарэза.*



# Аб чым кожны павінен ведаць.

## I. Чаго мы жывём на сьвеце?

Перад усім кожны, хто жыве на сьвеце, павінен добра сабе ўсьведаміць, дзеля чаго ён тут жыве. Належыць ведаць і моцна ў тое верыць, што чалавек не нашоўся на гэтым сьвеце якімсь прыпадкам, або без ніякай мэты. Як увесь сьвет і ўсякія ў ім рэчы, так і чалавек дастаў свой быт з волі Ўсёмоцнага Стварыцеля Бога, а гэта дзеля таго, каб чалавек Бога праз веру пазнаваў, хваліў, любіў і Яму верна служыў, а за гэта каб пасьля сьмерці з Богам у небе вечна панаваў. Веручы ў гэта чалавек павінен прызнаць за праўду і тое, што як кожная на сьвеце рэч, калі ня выпаўняе таго, да чаго празначана, то яе выкідаюць вон, напрыклад калі дрэва ў садзе ня родзіць пладоў, то яго высякаюць, так сама і чалавек, каторы ня жыве так, як павінен, будзе за гэта пакараны.

З гэтага вынікае, што кожны чалавек павінен старацца як найлепш свае павіннасьці пазнаць і іх спаўняць — гэта знача, што чалавек павінен добра пазнаць усе праўды веры і моцна ў іх верыць і пазнаць усе прыказаньні Божыя, або на Божых абапёртыя, ды іх спаўняць. Мэтай жыцьця чалавечага на зямлі ёсьць тое, каб тут зарабіць сабе на жыцьцё вечнае ў небе, а да гэтай мэты ня дойдзеш інакш, як стараючыся ўсімі сіламі выпаўніць тыя павіннасьці, якія Бог Стварыцель назначыў для чалавека.

## II. Праўда ёсьць толькі адна.

Адзін толькі ёсьць Бог, каторы стварыў сьвет і чалавека, адзін Яго Сын Ісус Хрыстос адкупіў род людзкі сваей найсьвяцейшай і найдаражэйшай крывёй, адну і праўду, або скажам адну веру падаў Бог людзям да спаўненьня. Адзін Гасподзь, адна вера, адзін хрост — кажа сьв. Павал Апостал. (Ефез. 4, 5). Але мы бачым шмат розных вераў. Вучыцялі кожнай з іх кожны сваю веру захваляюць як найлепшую і найпраўдзівейшую; кожны з іх цьвердзіць, што толькі яго вера вядзе чалавека да збаўленьня, да неба. А разважыўшы чаго кожная вера вучыць, пабачым, што ў многіх няраз вельмі важных рэчах гэтыя веры між сабой не згаджаюцца: што адна падае за праўду, то другая абяўляе за фальш і наадварот, што другая ўважае за праўду, то першая адкідае. Часамі адна вера да другой так не падобна, як неба да зямлі, а кожная падаецца за найлепшую, ды ўгаварывае людзям ісьці той дарогай, якую яна ім паказывае, хоць гэта зусім іншая будзе дарога ад тэй, якую паказывае праўдзівая: адзіная, сьвятая, паўсюдная, апосталь-

ская, Хрыстовая вера. З гэтага відаць, што ня можна жыць абы ў якой веры, бо як будзеш жыць у фальшывай, то да неба не патрапіш, але трэба пазнаць веру праўдзівую Хрыстовую, яе прыняць і яе навуку верна выпаўняць, а тады ня зблудзіш.

## III. Якая ёсьць праўда?

Кожны разумны чалавек згодзіцца з тым, што праўда толькі адна, то і вера праўдзівая толькі адна. Але як пачаць выбіраць з многіх адну веру праўдзівую, то пачынаецца труднасьць, бо прыхільнікі, а найбольш вучыцялі кожнай веры ўсімі сіламі даказываюць быццам іхняя вера найлепшая, а іншыя мяшаюць з балотам. І як тут распазнаць? А вось як. Трэба найперш з глыбокай пакорай упасьці перад Богам і шчыра папрасіць, каб Сам Ён даў да гэтага патрэбнае сьвятло. Бачыш, як чаго шукаеш у цямнаце, то запаляеш сьвятло, вось-жа і тут патрэбна сьвятло, а такое сьвятло можа даць толькі Бог. З Ягоным сьвятлом ня зблудзіш. Пасьля старайся добра пазнаць тую веру, у якой ты радзіўся: чаго яна вучыць, чаго вымагае, ці даўная яна, хто яе залажыў, ці апосталы яе шырылі па сьвеце, ці трымаліся гэтай веры людзі разумныя, сьвятыя, ці баранілі яе ўсімі сіламі, ці аддавалі жыцьцё сваё за гэту веру, ці дзеяліся цуды пацьвярджаючыя праўдзівасьць гэтай веры? Калі ўсё гэтак, то гэтай веры і дзяржыся, бо яна і будзе праўдзівай Хрыстовай верай, а калі не, то зараз-жа пазнавай другую веру; без упярэджаньня, сумленна дазнавайся, можа яна зьяўляецца адзінай, сьвятой, па ўсім сьвеце пашыранай, апостальскай, Хрыстовай верай, пацьверджанай мучанікамі, сьвятымі, вялікімі праўдзівымі цудамі? Калі так, то яе прымай і ў ёй жыві. Калі і ў гэтай недашукаўся праўды, шукай у трэцяй і г. д., перадусім, як ужо раней сказана, добра пазнайце сваю веру.

## IV. Дзе праўда?

Калі Сын Божы Ісус Хрыстос, стаўшыся чалавекам хадзіў па зямлі, ды шырыў сваю Божую навуку, то вельмі часта пацьвярджаў яе вялікімі цудамі, гэта значыць справамі, якія ў прыродны спосаб не маглі стацца: хворых хоцьбы на якую застарэўшую хваробу адным словам аздараўляў, сьляпым нават ад роду даваў зрок, глухім слух, хворых на лепру (тронд — праказа) ачышчаў, злых духаў выганяў, ветрам прыказваў і слухалі, па вадзе хадзіў, як па зямлі, ваду ў віно перамяняў, нават памёршым варочаў жыцьцё, ня толькі зараз пасьля скананьня, як дачцэ Яіровай, але ўжо несянаму на магілкі хлапцу ўдавы з Наіму, а нават на чацьвёрты дзень па сьмерці Лазара з Бэтаніі.

Гэта ўсё ясна даказывала, што Ісус ёсьць Сынам Божым, значыць і сам Богам, што яго навуку трэба канечна прыняць і спаўняць. Вось падобнымі цудамі і па цяперашні час пацьвярджае Бог сваю праўдзівую веру, а ў верах фальшывых на пацьвярджэньне фальшу праўдзівых цудаў ня бывае і быць ня можа, бо Бог, каторы і сам ніколі не абмыліцца і нікога з людзей у абмылку ня ўводзіць, ня можа пацьвярджаць фальшу як праўду. Праўдзівыя-ж цуды можа рабіць толькі Бог. Вось-жа вера, каторая прызнае за праўду ўсё тое, што праз апосталаў і евангелістаў ды праз сьвятых іх наступнікаў перадаў Ісус Хрыстос, каторая нічога не ўвяла ў сябе праціўнага тэй-жа навуцы і нічога з яе не адкінула, а ў каторай ад часу да часу здараюцца праўдзівыя цуды — тая вера зьяўляецца праўдзівай Хрыстовай,— дык у ёй праўда — яе трэба ўсім прызнаваць і ў ёй жыць, бо інакш загубіш душу сваю на векі.

## V. Каторая вера праўдзівая?

Калі шчыра бяз ніякага ўпярэджаньня, сумленна станем дашуківацца праўды, то знойдзем яе толькі ў веры, якую зазвычай называюць каталіцкай, а каторая ёсьць адзінай, сьвятой, па ўсім сьвеце пашыранай, апостальскай — дык і Хрыстовай верай. Толькі гэта вера перахавала ў цэласьці і ня зьменяную ўсю тую навуку, якую апавядаў сам Хрыстос, а пасьля Яго апосталы і сьвятыя Айцы. Яна нічога не ўвяла новага, што было-бы праціўнае тэй Божай навуцы, Яна пацьверджана праўдзівымі вялікімі цудамі Божымі, каторыя дзеяліся ў ёй ад часоў апостальскіх і дзеюцца па сягоньняшні дзень. Трэба было-б пісаць некулькі томаў кнігу, каб успомніць хоць важнейшыя ўсе цуды і цудоўныя аб'яўленьні, якімі Бог пацьвердзіў праўдзівую веру, але і тут трэба ўспомніць хоць некалькі здарэньняў.

Да 11-га стагодзьдзя трывала адна, каталіцкая вера на сьвеце. Былі адшчапенствы, былі адступнікі, але наагул вера была адна. У адзінаццатым веку грэцкае духавенства Цараграду адлучылася ад еднасьці веры, а ў сьлед за гэтым хутка і ўся Грэцыя. І з тэй пары ня было ў адпаўшай ад еднасьці веры грэцкай ні аднаго праўдзівага вялікага цуду на пацьверджаньне фальшу і праўдаў розных ад праўдзівай веры.

А тымчасам маем вельмі многа вялікіх праўдзівых цудаў, на пацьверджаньне праўд каталіцкай, або ўсесьветнай царквы, якімі яна розьніцца ад праваслаўя нязлучанага, напрыклад на пацьверджаньне навукі аб Бязгрэшным Зачацьці Прасьвятой Дзевы Марыі цуды ў месьце Люрд.

11-га лютага 1858 г. аб'явілася Маці Божая ў Францы

ў Люрд дзяўчынцы Бэрнардэце. На просьбу Бэрнардэты зімой зацьвілі там розы, з каменнай скалы пацякла вада, катарая заліўшы вакалічную далінку па сягоньняшні дзень славіцца цудоўнымі аздараўленьнямі тых, хто з верай у гэну ваду апушчаецца. На запытаньне Бэрнардэты як імя зьявіўшайся Пані, яна адказала: „Я бязгрэшнае пачацьце“ („Je suis h'immaculèe conception“). Гэтыя словы, як і словы малітвы на мэдаліку аб'яўленым у Парыжы пацьвярджаюць каталіцкую праўду веры аб тым, што Марыя ад самага свайго пачацьця была вольнай ад грэху первароднага, а тымсамым пацьвярджаюць і праўдзівасьць усей каталіцкай веры.

Гэтакіх цудоўных здарэньняў ня бывае ні ў якой іншай веры апроч каталіцкай, а гэта і даказывае, што толькі адна каталіцкая вера ёсьць праўдзівай Хрыстовай верай, у каторай павінны ўсе жыць, каб дастаць збаўленьне душы. Усе іншыя веры гэта ўсё фальшывыя, яны не вядуць чалавека да неба.

## VI. Што трэба ведаць аб „уніі“?

За жыцьця нашых прадзедаў па ўсей нашай старонцы Беларусі была адна вера — каталіцкая але не адзін быў адрад, большая часьць Беларусаў належала да так званай „уніі“. Слова лацінскае у н і я азначае е д н а с ь ц ь. Бо вера гэта прызнае, што як адзін быў Хрыстос, так адна і вера Хрыстова, але каб гэту веру прызнаваць, не канечна, каб усе слухалі імшы лацінскай і трымаліся звычаяў лацінскага касьцёла; звычаі-абрады могуць быць і ёсьць розныя, але вера павінна быць адна. Вось уніяты слухалі Сьв. Літургіі па славянску, прыймалі Бога пад відам хлеба і віна, як і праваслаўныя, але верылі ў усё тое, чаму вучыць вера праўдзівая Хрыстовая і з гэтай верай былі злучаны ў е д н а с ь ц ь. Унію гэту цары маскоўскія пры помачы папоў, жандармаў і войска здушылі, сьвяшчэньнікаў уніяцкіх, або павысылалі ў ссылку, або павыганялі заграніцу, а на іх месца пасадзілі папоў нязлучанага праваслаўя, якія насільна ўдзержывалі народ у казённай „праваслаўнай“ веры. Народ гэты, дзе сьвятлейшы і лепш прывязаны да веры дзядоў пераносіў розныя мучэньні, а веры не пакідаў. У 1905 годзе пасьля маніфэсту цара Мікалая II. шмат быўшых уніятаў перайшло ў каталіцтва лацінскага абраду, бо унія была не дазволена, а іншыя, цямнейшыя, або ня так дбаючыя аб збаўленьні душы Беларусы асталіся ў казённым праваслаўі. Цяпер ізноў дзе ня дзе абуджаецца унія і хаця памалу, але ўсьцяж пашыраецца, толькі недахват уніяцкага духавенства.

Вось аб гэтай уніі трэба кожнаму ведаць, што гэта тая

самая Хрыстовая, каталіцкая вера, толькі абрад славянскі, а не лацінскі. І гэтак уніяцкі сьвяшчэньнік можа адпраўляць Сьв. Літургію ў лацінскіх касьцёлах, а лацінскі ксёндз у царкве уніяцкай. Спавядацца можна роўна, ці ў лацінскага, ці ў уніяцкага, тасама прыймаць Сьв. Прычасьце ці пад адным відам, ці пад абодвамі — ўсё гэта пазволена і добра — бо гэта адна вера, адна Царква Хрыстова. З гэтага бачым, што каб быць каталіком, то не канечна прымаць лацінскі абрад, бо такім-жа каталіком будзеш уніятам. Унія і каталіцтва — адно і тое самае.

*а. Б Пачопка.*

---

# Крыху аб праваслаўі.

„Хто ўмее чытаць кнігу прыроды — сказаў Я. Колас,— той можа многаму чаму з яе навучыцца". Зусім мае слушнасьць. Чаму? Бо так разумны твор, як прырода ня можа быць жаралом глупстваў. Як у жыцьці прыроды, таксама ў жыцьці рэлігійным народаў праяўляецца розум Божы, які ніколі ня можа сабе пярэчыць.

Праваслаўныя кажуць, што іх царква аснована Хрыстом. — Ці гэта аднак праўда?

Царква праваслаўная-царская была на фальшывых асновах. Што яна была царская, аб гэтым думаю, ніхто спрачацца ня будзе. Знача асноваю царквы быў цар, гнілая падваліна дому, на якой кожны разумны чалавек не адважыўся-б аснаваць такі дом, як дом Божы. Урэшце гэта праціўна нават навуцы самога Хрыста, бо Ён сказаў, што калі хто хоча будаваць дом, то няхай асноўвае яго на камяні. А Царква Божая гэта-ж і ёсьць Царква самога Хрыста. Ён яе Сам збудаваў і Сам даў пад яе фундамант і аснову. Ясна, што Ён сабе не пярэчыць у нічым і калі казаў другім будаваць дом на камяні, то свой перадусім на гэтым-жа заснаваў. Хто-ж быў тым камянем, на якім Хрыстос заснаваў сваю царкву. Цікавішся, то вазьмі Евангельле, адтуль дазнаешся. Там у Мацьвея 16—18 ясна, як дзень Божы, напісана: „Ты есі Петр, і на сем камяні созіжду церков мою". Адгэтуль ясна, што, калі Хрыстос даў аснову сваей царкве, то яе зьмяняць ніхто ня мае права. А калі праваслаўныя паважыліся ўзяць сабе за фундамант цара, а не скалу (пэтрос), то ясна, што яны за гэта мусяць адпакутаваць і вярнуцца да праўды. Так і ёсьць. І хіба сьляпы толькі не пабачыць упадку цяперашняга „праваслаўя". Хто яшчэ ў гэтым сумняваецца, няхай гляне на вёску, а там убачыць, як на далоні ўпадак царквы. А хто ня бачыць, але мае розум, да таго самага дойдзе.

Ёсьць прыказка ў нас, „калі Бог хоча каго пакараць, то перш розум адбярэ“. Вось якраз гэтак сталася з царскім праваслаўем. Яны зьмяшалі сваю палітыку з рэлігіяй і ўжывалі яе як аружжа да русафільства, і дзеля гэтага пасылалі на Беларусь і Украіну і ў іншыя забраныя краі праваслаўных рускіх сьвяшчэньнікаў. Я думаю, што кожны знае, як расьце расьліна на не сваей зямлі. Вось найлепшы прыклад вазоны. Як іх даглядае хтось, то растуць, а не — так вянуць. Так якраз маецца справа з цяперашнімі праваслаўнымі духоўнікамі ў Польшчы, даўнейшымі царскаправаслаўнымі. Як быў цар— жылі, як цара няма —вянуць, інакш кажучы падаюць, а з імі і ўся царква. І вось праваслаўныя гляньце на сябе покі час, ня бойцеся ўбачыць праўду.

Калі-б хто ўважаў Унію, як палянафільства, скажу толькі адно, што мусіла-б з ім стацца тое самае, што і з праваслаўем.

*А. Х.*

---

# Наш адказ.

У апошнія часы вельмі многа гаварылі і пісалі ў газэтах і часопісах аб „усходнім абрадзе“.

Загаварылі аб гэтым абрадзе, або інакш аб адносінах да работы унійнае, прадстаўнікі народу ў Польскім Сойме, выказаў таксама да гэтай работы адносіны прадстаўнік Улады п. Міністар Прасьветы і Веравызнаньняў 20.І. с. г.

Моцным рэхам па гэтых прамовах адазвалася грамадзянства ў газэтах і часопісах, адныя — ганяць, другія — гэту справу бароняць.

Многа ўсходня-славянская галіна каталіцкае царквы мае сваіх няпрыхільнікаў з усіх бакоў. Ня толькі праваслаўныя нязлучаныя, але і некаторыя „каталікі“ крывым вокам глядзяць на пашырэньне сусьветнай або каталіцкай царквы.

Чаго толькі ня пісалі „аб усходнім абрадзе“, а асабліва айцох езуітах усходня-славянскага абраду ў Альбэртыне.

Агульна на ўсе напасьці можна адказаць, што німа там праўды.

Чаму? Таму, што праўда ня можа сабе пярэчыць.

Хто чытаў усе напасьці на унію і уніяцкае духавенства, той лёгка мог заўважыць, што няпрыхільнікі уніі адзін другому пярэчаць. Напрыклад, праваслаўныя нязлучаныя вінавацяць уніятаў у польшчаньні праз лацінізацыю, а некаторыя „каталікі“ палякі лацінскага абраду крычаць на ўсё горла: — „Ай гвалт, уніяты „на нашых крэсах“ праз свой

чысты бізантыйскі абрад і праз навукі ў царкве памаскоўску, абрушчаюць беларускі народ.“

Ці-ж можа быць гэта праўда? Не, гэта фальш! Чаму? Таму, што ня можна аб гэтай самай справе і аб тых самых людзях гаварыць адно, а потым зусім другое, — ня можна тую самую рэч назваць чорнай і белай, — або уніяты абмаскаліваюць беларусаў, або апалячваюць, ня можа быць адно і другое разам.

Па праўдзе-ж гаворучы адно і другое зусім да уніятаў не падходзіць.

Адносна да нашых мілых братоў праваслаўных нязлучаных, хачу толькі тутака зьвярнуць увагу, каб устрымалі сябе ад радасьці („Слова“ Вар. № 8 с. г.) з прычыны няпрыхільных да нас адносінаў з боку каталікоў, як напрыклад мова п. Міністра Веравызнаньняў і Асьветы з 20.І. с. г. і мэмор'ял Камітэту Абароны Крэсаў да Епіскапату Каталіцкага. Праўда, гэта вада, але не на ваш млын. Бег гэтай дзяржаўна-нацыянальнай вады можа быць сьціраваным і ў бок расейска-праваслаўны, тады ваша радасьць лёгка можа перамяніцца ў трывогу і сум. Прадчувае гэта „Воскр. Чт.“ № 10 ст. 143: „Яны (каталікі) з намі, але толькі да пары і толькі ў некаторых справах“.

Сярод каталікоў розныя ёсьць людзі: кожны з свайго боку на справы ўглядаецца, розныя маючы перад сабой мэты. Мне здаецца галоўным жаралом усіх непаразуменьняў у гэтай справе ёсьць няправільныя адносіны чалавека да Госпада Бога і Яго Сьвятой Царквы.

Над усім мусім ставіць Бога і Ягоную сьвятую волю: „Калі хто прыходзіць да Мяне і не зьненавідзіць бацьку свайго і матку, і жану, і дзяцей, і братоў, і сёстраў, а пры тым і самае жыцьцё сваё, той ня можа быць вучням Маім“ (Лук. 14, 36).

Наш абавязак адносна да Бога — Яму служыць, а не Ім паслуговывацца да іншых мэтаў.

Другая прычына ўсіх непаразуменьняў адносна да уніі гэта неразуменьне адносінаў сусьветнае царквы да розных народаў і іхніх моваў. Сусьветная або каталіцкая царква, а таксама і яе ўсходняя галіна адносна да народнасьцяў павінна шанаваць усе народы і іхнія мовы, ніякай не пагарджаць. Гэта дух Хрыстовы.

Ісус Хрыстос сказаў сваім апосталам: „Ня ведаеце якога вы духа“ — тое самае можна сказаць аб нашых няпрыхільніках, ня ведаеце, а можа ведаеце, але ня хочаце зразумець духа справы Божай злучэньня ў адно ўсіх хрысьціян.

Маючы толькі гэту а ня іншую справу на мэце, сьвяшчэньнікі ўсходня-славянскага абраду выяўляюць сваю гатоўнасьць служыць толькі Богу і дзеля Бога. Ня могуць

ужываць свайго становішча для праводжаньня палітыкі дзяржаўнай ці народнай з крыўдай другога народу. Да ўсіх народаў царква сусьветная або каталіцкая адносіцца, як родная маці.

Усімі пагарджаны народ беларускі і ягоная мова ў царкве ўсясьветнай знойдзе свае правы і апеку. Толькі няхай народ беларускі больш мае ў сабе сьведамасьці народнай.

Каб зразумелі нашыя няпрыхільнікі гэтае становішча каталіцкае царквы, ня было-б прыкрых непаразуменьняў паміж намі і імі.

Чаму цяпер адносна да уніі паўстаў цэлы хаос розных паглядаў, німа яснасьці і праўды? Бо людзі паставілі на першым мейсцы ня Бога, а стварэньне, інтэрас зэмскі. Загубілі людзі паняцьце аб Царкве Хрыстовай. Прасьвеціцца і ня будзе прыкрых непаразуменьняў, калі ўсе хрысьціяне будуць памятаць, што Царква Хрыстова, гэта маці ўсіх народаў, розных моваў, усіх яна адзінакава любіць і мае ў пашане.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

**Лёс гішпанскіх Езуітаў.** Citta del Vaticano. Лік Езуітаў, каторыя апусьцілі Гішпанію, абыймае каля трох тысяч. Большасьць становяць клерыкі і іх прафэсары. Рэшта Езуітаў засталася ў Гішпаніі, і мусіць вылучна ўласнымі сіламі здабываць магчымасьці да жыцьця. Значная частка іх карыстае з гасьціннасьці гішпанскіх каталікоў, у характары вучыцялёў, або капэлянаў. Тыя Езуіты, каторыя пакінулі ўласную старонку, адправіліся групамі ў Бэльгію, Голяндыю, на Сыцылію, да Піэмонту і Паўднёвай Амэрыкі.

**„Osservatore Romano“ аб супакою на Далёкім Усходзе.** „Osservatore Romano“ замяшчае артыкул абгаварываючы весткі з Шанхаю, аб магчымасьці ўстрыманьня дзеяньняў ваенных. Прадзіраецца касуля сьвятла — піша гэная газэта — каторая сьведчыць, што абедзьве змагаючыяся стораны здаюць сабе справу з павагі палажэньня. Орган ватыканскі жадае памыснасьці пакаёвай ініцыятыве, і прыпамінае апошнюю прамову Сьвятога Айца, пасылаючага мольбы на інтэнцыю пакою для змагаючыхся народаў на Далёкім Усходзе.

**Крыніца слабасьці праваслаўя.** На адным з апошніх сабраньняў Таварыства сьвятога Іоана Златавуснага ў Лён-

дыне, прамаўляў на тэму сучаснага палажэньня праваслаўя граф Бэнігсэн, каторы перайшоў з праваслаўя на каталіцкую веру, а дзеля гэтага добра ар'ентуецца ў гэтых справах. Паводле яго галоўнай прычынай слабасьці праваслаўя ёсьць лішняе прывязаньне да формы вонкавай, а амаль поўнае забыцьцё ўнутранага духовага жыцьця. Інакш прадстаўляюцца справы ў каталіцызме, дзе корань духовага жыцьця адыгрывае найважнейшую роль і якое пераважае ўсе іншыя. Дзеля гэтага Каталіцкая Царква мае вялікіх містыкаў, а сярод іх нават жанчыны ёсьць, як сьв. Кацярына з Сенны, або сьв. Тарэса з Авіля, ня толькі ў часах даўнейшых, але ў няпрарванай лініі аж да сяньняшніх дзён. Праваслаўе ня можа пахваліцца містыкамі апошняга часу, як напрыклад сьв. Тарэса ад Дзіцятка Ісус, або сьв. Іоан Віанэй. Гэты мамэнт становіць незапярэчаны довад праўдзівай пастаяннасьці навукі і праўдзівага трываньня Каталіцкага Касьцёла.

**Папа абаронцам супакою і разбраеньня** КАР паведаміў перад некалькімі днямі, што Сьвяты Айцец за пасярэдніцтвам свайго сэкрэтара-кардынала, зьвярнуўся да ўрадаў японскага і кітайскага з заклікам устрыманьня ваенных дзеяньняў і склікаьня пакаёвай конфэрэнцыі. Акт гэты сьвятога Айца паказуе нам, аб вялікіх працах для сусьветнага супакою.

**Казанскі сабор заменяны на антырэлігійны музэй.** Маскоўская „Праўда" з дн. 18 б. м. паведамляе, што з распараджэньня савецкіх уладаў памятковы сабор Казанскі ў Ленінградзе мае быць заменены на міжнародна-атэістычны музэй.

**Дастойнае адзначэньне сястры геройкі.** Як паведамляюць з Парыжа, урад францускі апошнім часам адзначыў Легіяй Ганаровай сястру Мары'ю Людвіку Марцэлье са Збору Сёстраў Міласердзя. Гэтая законьніца 50 разоў давала свае крыві да пераліву для хворых у шпіталях і клініках парыжскіх.

**Ватыкан.** Сьв. Айцец Пій XI абвясьціў 17 верасьня 1931 г. сьв. Робэрта Бэлярміна з А. А. Езуітаў „Вучыцелям Сусьветнай Царквы" і назначыў царкоўнае набажэнства да Сьвятога на 13 траўня.

— У катэдры сьв. Пятра ў Рыме будзе заложана радыё для трансмісіяў набажэнстваў адпраўляных сьв. Айцом.

— 22.XII,1931 г. з няведамых дагэтуль прычынаў завалілася ў Ватыканскай бібліятэцы самая прыгожая заля — Сыкста V. Страта для навукі і мастацтва вялікая. На няшчасьце была страта і ў людзях — згінуў адзін вучоны і 4 работнікаў. Сьв. Айцец назначыў сем'ям трагічна згінуўшых дажывотнюю падмогу.

— 2 сакавіка с. г. сьв. Кангрэгацыя Абрадаў разглядала справу абвяшчэньня бл. Бэрнадэты Субіру з Люрд сьвятою з прычыны цудоўных аздараўленьняў, якія паўтараюцца за яе пасярэдніцтвам.

**Вільня.** 15 лютага с. г. жыхары м. Вільні сьвяткавалі ўрачыстасьць 10-годзьдзя панаваньня сьв. Айца Пія XI. Урачыстасьць пачалася набажэнствам у катэдры, а ў 13 гадз. адбылася „акадэмія". Выслана тэлеграма з выражэньнямі вернападданства.

— 6 сакавіка с. г. памёр у Вільні Е. Пр. Епіскап Уладыслаў Бандурскі.

---

(КАП) — У Бэльградзе прыгатаўляюцца да 6 міжнароднага зьезду унійнага. У сёлетнім годзе прыпадае 25-цігодзьдзе 1-га гэткага зьезду, дзеля таго адбудзецца ён з адпаведнымі ўрачыстасьцямі. На гэты раз ёсьць спадзяваныя прадстаўнікі праваслаўнага духавенства. Кіраўніком урачыстасьці будзе Я. Сьв. Пр, Мітрапаліт Шэптыцкі.

(КАП) — „Katolische Korrespondenz" піша, што студэнты мэдыцыны ў Шанхаю ахвяравалі свае ўслугі гарадзкім шпіталям. Большасьць ужо працуе ў ваенных шпіталях.

---

## Усячына.

— На далёкім усходзе неспакойна: японцы напалі на кітайцаў, каторыя бароняцца. З Шанхаю даносяць, што японцы занялі порт Ву-Сунг і цэлы пас каля Шанхаю аж да Нан-Сіанг.

— У Маскве 5.III было пакушэньне на радцу нямецкага пасольства п. Твардоўскага,—студэнт Штэрн страляў 4 разы, ад чаго радца ранены ў шыю і руку. Жыцьцю яго не загражае небясьпека.

— У Францыі 7.III памёр вялікі палітычны дзеяч Арыстыд Брыянд.

---

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.

# Календар

на м—ц Сакавік 1932 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kaled. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | П | Аўдоцьці | 14 | P | Matyldy |
| 2 | А | Хвядоса | 15 | A | Klemansa |
| 3 | С | Еўтропія | 16 | S | Abrahama pust. |
| 4 | Ч | Гарасіма | 17 | Č | Patrycija b. |
| 5 | П | Конана | 18 | P | M. B. Balesnaj, Kiryły |
| 6 | С | 42 муч. з Аморэі | 19 | S | Jozafa Abl. N. Dz. M. |
| 7 | Н | *1 нядз. посту*, Ефрэма | 20 | N | *Wierbnica*, Klaŭdyi |
| 8 | П | Тэофілакта | 21 | P | Benedykta op. |
| 9 | А | 40 муч. з Сэбастыі | 22 | A | Kaciaryny św. |
| 10 | С | Кондрата | 23 | S | Feliksa |
| 11 | Ч | Сапрона | 24 | Č | *W. Čaćwier*, Gabryela arch. |
| 12 | П | Тэофана | 25 | P | *W. Piatnica* |
| 13 | С | Нікіфара | 26 | S | *W. Subota*, Todara |
| 14 | Н | *2 н. посту*, Бэнэдыкта | 27 | N | **Wialikdzień**, Jana Dam. |
| 15 | П | Агапа, м. | 28 | P | **Paniadziełak Wialiki** |
| 16 | А | Савіна і Юльяна | 29 | A | Eŭstazija |
| 17 | С | Аляксея | 30 | S | Anieli ŭd. |
| 18 | Ч | Кірылы | 31 | Č | Balbiny p. |
| | | | | | KRASAWIK |
| 19 | П | Хрызанта | 1 | P | Hugona |
| 20 | С | Іоана муч. | 2 | S | Franciška z Pauli |
| 21 | Н | *3 н. посту*, Якуба | 3 | N | *Prawodnica*, Ryšarda |
| 22 | П | Базыля | 4 | P | **Źwiastawańnie N. Dz. M.** |
| 23 | А | Нікана | 5 | A | Wincenta |
| 24 | С | Захара | 6 | S | Celestyna |
| 25 | Ч | **Дабравешчаньне ПрДзМ** | 7 | Č | Epifanija |
| 26 | П | Арх. Гаўрылы | 8 | P | Dyonizaha |
| 27 | С | Матроны | 9 | S | Marcelaha |
| 28 | Н | *4 н. посту*, Іларыона | 10 | N | *2 n. pa W.*, Ezachiela |
| 29 | П | Марка | 11 | P | Lawona W. pap. |
| 30 | А | Іоана Лест. | 12 | A | Julijuša pap. |
| 31 | С | Іпація | 13 | S | Krystyny |